ведамы й прызнаваны ўсімі, што няма патрэбы спэцыяльна спыняцца на ім тут. Трэба падчыркнуць толькі значаньне гэтага мамэнту на сучаснасьць і асабліва на будучыню, ды тую навуку, што выплывае з пэўнага занядбаньня (вольнага ці міжвольнага) яго ў ня так далёкай мінуласьці. І калі некаторыя зь сяньняшніх Летувісаў даходзяць ужо да сьведамасьці, што «адна з важнейшых прычынаў, чаму Летува толькі 22 гады пражыла незалежным жыцьцём» палягае якраз у тым, што «нажаль, яна ня мела больш ля сябе сваіх добрых суседзяў — незалежных Беларусі і Ўкраіны» — дык такую сьведамасьць можна толькі падзяляць і вітаць. Праўда, гэта ня значыць зусім, што ўжо сяньня можна прадзначыць ці хоць прадбачыць, у якія канкрэтныя й практычныя формы павінна выліцца тая навука й сьведамасьць: ці гэта мае быць добрасуседзкае суйснаваньне цалком незалежных гаспадарстваўскіх арганізмаў, ці якія-небудзь, быццам-бы модныя сяньня й на будучыню, камбінацыі фэдэралістычнага тыпу, а калі так, дык якія наймя — ці гістарычна ўжо выпрабаванага камбінату Вялікага Княства Літоўскага (якому, відаць, у пэўнай меры сымпатызуе аўтар зьмешчанага намі сяньня артыкулу), ці вельмі папулярызаванага некаторымі коламі «Міжмор'я», ці яшчэ шырэй закроеных плянаў панэўрапейскага размаху, што сяньня як-бы пачынаюць навет пераходзіць ужо ў сфэру рэальных пачаткаў (ангельская-Бэвінаўская прапанова «Заходняе вуніі»), ці яшчэ іншых якіх (хоць-бы й таго сьцягу гаспадарстваў, што падаецца пад канец успомненага артыкулу). Сяньня гэткія рэчы могуць толькі дыскутавацца, і навет дыскутавацца павінны. У гэткіх дыскусіях трэба ўсебакова абмеркаваць розныя самамагчымыя варыянты, ня толькі з большай ці меншай даўнасьцяй за імі, але й можа зусім новыя, сьвежыя. Упаасобку, варта было-б разважыць магчымасьць, казаў той, «Паўночна-Балтыцкае падковы гаспадарстваў» у складзе Беларусі, Летувы, Лацьвіі, Эстоніі, Фінляндыі, Нарвэгіі, Швэдыі й Даніі, што можа мець у сабе шмат панаднага і ў эканамічным разрэзе, і навет проста ў сэньсе, сказаць-бы, нутраное стабільнасьці, ня маючы ў сваім складзе ніякіх застарэлых ці закаранелых гістарычных варагоў, канкурэнтаў або прэтэндэнтаў на асыміляцыю ды панявольваньне суседзяў. Але гэта наагул справа, якая патрабуе шырэйшага абгрунтаваньня й абмеркаваньня, і мы спадзяёмся зьвярнуцца да яе неўзабаве адмыслова на балонах нашае газэты.

Цяпер-жа хочацца адцеміць яшчэ толькі адно, — што мы падыходзім да ўсіх гэтых мамэнтаў з поўнай шчырасьцяй і гатовасьцяй. Мы заўсёды сымпатызавалі й сымпатызуем нашым добрым суседзям і сваяком. А што да Летувісаў упаасобку, дык ёсьць ці мала мамэнтаў, да якіх мы ставімся навет больш, як із сымпатыяй, і прынамся былі-б далёка не ад таго, каб мець за сабою ці ў сябе падобныя рэчы. Найперш — гэта тое незалежнае іхнае гаспадарстваўскае быцьцё, хай сабе ўсяго 22-гадовае й абарванае цяперака... Колькі-ж багаславенства прынесла яно ім! І мы зусім разумеем ды падзяляем сяньняшнюю іхную тугу па гэных «найпрыгажэйшых гадох», па тым «залатым веку»... І ня менш хочам спадзявацца й жадаць ім звароту гэнага нацыянальнага шчасьця, звароту новага й большвекавіта-трывалага. А гістарычныя навукі шмат якіх мамэнтаў здабываньня гэнае незалежнасьці, пачынаючы хоць-бы ад адважнае й наважнае дзейнасьці слаўнае «Тарыбы», толькі даброй нацыі кіраванае, бязуважнае да розных баязьліўскіх «што скажуць людзі» ці «адзін у полі не ваяка» — і сяньня і для нас могуць быць толькі за ўзор і прыклад. І яшчэ шмат чаго іншага, проста аж зайздроснага часам, як хоцьбы сабе мора... А мова зь ейнай поўнай апрычонасьцяй і арыгінальнасьцяй, што нікому й на дум успасьці ня можа залічаць яе ў дыялекты ці «наречия» розных «вялікіх і магутных»...

Праўда, сяньня ўсе мы й нашыя народы у зусім роўным палажэньні, і наагул аб захапленьні ці зайздрасьці адны адным у гэтым дачыненьні ня можа быць і мовы. Пра лепшае засталіся адны ўспаміны, і на лепшае застаюцца адны надзеі. Гора аднолькавае сяньня для ўсіх, і запраўды сталася так, што гора нашых суеседзяў і сваякоў — гэта й нашае гора. Дык ці-ж не павінна затое быць і гэтак, каб і сьвята тыхжа нашых суседзяў-сваякоў адчулася, сталася-б і нашым сьвятам?

І ня толькі сяньняшнія сьвяты ўспамінаў і надзеяў, але й заўтрашняя-пазаўтрашняя вялікая ўрачыстасьць Другога Прыйсьця Волі.

Гэтага пажадайма-ж сяньня сабе ўзаемна, усе добрыя суседзі й сваякі!

## ХТО ГЭТКІЯ «КВІСЬЛІНГІ»

У перадавым артыкуле папярэдняга нумару нашае газэты быў ужыты палітычны тэрмін апошніх часоў — «квісьлінгі». Хоць там-жа адразу-ж было паясьнена, хто разумеецца пад гэтай катэгорыяй («пакліканыя фашыстымі «правадыры» й «прэзыдэнты» твораных імі марыянэткавых «урадаў» і «радаў»), сям-там пачынаецца спэкуляцыя гэтым тэрмінам і падцягваньне пад яго шырэйшага кола асобаў, як кажуць, Богу душой невінаватых». Таму выясьняем ізноў падрабязьней:

Квісьлінг — гэта запраўднае прозьвішча Нарвэжца, якога, акупаваўшы Нарвэгію, Гітлер зрабіў «фюрэрам нарвэскага народу» і «прэзыдэнтам ураду». Таму, што ён аказаўся аж занадта верным служкам акупантаў, ягонае прозьвішча сталася агульным абазначэньнем падобных тыпаў — пакліканых фашыстымі «фюрэраў» і «прэзыдэнтаў» ды толькі іх і абазначае.

Гэткімі «квісьлінгамі» з ласкі Гітлера былі: маршал Пэтэн у Францыі, генэрал Нэдыч у Сэрбіі, Павэліч у Харваччыне, Гаха ў Чэхіі й інш.

У нас на Беларусі паступова зьмяніліся тры такія «квісьлінгі». Называць іхныя прозьвішчы тут тымчасам няма патрэбы: самі сябе яны добра знаюць, знаюць іх і людзі, што жылі на Бацькаўшчыне за нямецка-гітлераўскай акупацыяй.

# НЕЗАЛЕЖНАЙ ЛЕТУВЕ 30 ГОД

**К. ПЭЛЕКІС**

16 лютага сусед Беларускага Народу й сябра ў сучаснай нядолі Летувіскі Народ сьвяткуе сваё нацыянальнае сьвята. 16 лютага 1918 году ён, як і бальшыня іншых народаў разваленае рэвалюцыяй Расейскае імпэрыі, абвесьціў сваю незалежнасьць. Цаною крыві дабраахвотнікаў абаранілі Летувісы сваю волю ў баёх з бальшавікамі, Палякамі й Немцамі — бандамі Бэрманта.

Летувісы, Беларусы і Ўкраінцы колькі стагодзьдзяў перад нашымі часамі згодна жылі ў вадным гаспадарсьцьве — Вялікім Княсьцьве Літоўскім. Яны мелі супольных варагоў — Маскву й Кракаў. Але калі ў 1918 г. Летува здолела зажыць новым жыцьцём, вызваліўшыся з маскоўскае няволі, дык, нажаль, яна ня мела больш ля сябе сваіх добрых суседзяў — незалежных Беларусі і Ўкраіны. Гэта была адна з важнейшых прычынаў, чаму Летува толькі 22 гады пражыла незалежным жыцьцём. У гэтых найпрыгажэйшых гадох свайго жыцьця не забывалася Летува на сваіх суседзяў Беларускі і Ўкраінскі Народы, якія стагналі ў польскай і бальшавіцкай няволі. Іхная нядоля была нашай нядоляй.

На пачатку другой сусьветнай вайны Летуву заняла чырвоная армія. Спачатку ўсходні, пасьля заходні імпэрыялізмы растапталі прыгожы край — Летуву, і яна падпала пад уладу тых самых валадароў, што ўжо колькі дзесяцігодзьдзяў панявольвалі беларускія і ўкраінскія землі.

Аднак-жа гэныя 22 гады вольнага жыцьця засталіся ў памяці Летувіскага Народу, як найпрыямнейшыя. За два дзесяцігодзьдзі Летува ўзмацніла сваю гаспадарку й вырасла культурна. У малым, 60.000 кв. км тэрыторыяй, гаспадарсьцьве 3,000.000 грамадзянаў карысталіся ўсімі правамі чалавека. Справядлівая зямельная рэформа вельмі ўзьняла сялянскую гаспадарку. Стварыліся індустрыя, хвабрыкі, установы, гандаль, навет флёт. Вырас экспарт. Людзі ўзбагацелі й мелі ўсяго досыць.

Калі цяпер мы церпім на выгнаньні, часамі хлеба ня маючы, дык — часы незалежнасьці ўспамінаюцца, як нейкі «залаты век». Тое жыцьцё сяньня здаецца нам падобным да прыгожае казкі: тады Летувісы ня знаді, што такое няволя, акупацыя, дэпартацыя, Сібір, канцэнтрацыйныя лягеры й г. д. Чалавек яшчэ ня стаўся скацінаю, ніхто ня зьдзекваўся над ім, як садысты.

Малая Летува нікому не пагражала й ня была небясьпечнай. Ці-ж мог трохміліённы народ пакрыўдзіць дзьвесьцеміліённы СССР і васьмідзесяцьміліённую Нямеччыну? Аднак-жа гэта ня спыніла чырвонае арміі на межах Летувы. Галодная й босая бальшавіцкая армія знайшла ў Летуве «малую Амэрыку». Колькі год камуністыя, а тады й нацыстыя рабавалі гэты край, але-ж у ім усё яшчэ было што рабаваць...

Вось ужо блізу восем год прамінула, як Летува пазбаўленая незалежнасьці. За гэтыя гады мноства сыноў і дачок Летувы выслана да Варкуты, Чалябінску, Карэліі, Сібіру, Казахстану, у лягеры сьмяротнікаў. І сягоньня, калі народ сьвяткуе сваё нацыянальнае сьвята, Летувісы побач ізь Беларусамі і Ўкраінцамі ды іншымі народамі СССР стогнуць пад ярмом у Сібіры ці жывуць на выгнаньні ў заходняй Нямеччыне. На бацькаўшчыне вынішчаньне Летувіскага Народу адбываецца «стаханаўскімі тэмпамі». Із 3,000.000 жыхараў Летува пазбылася ўжо 600.000! Гэта-ж 20%!!! Ужо гавораць аб біялёгічным вынішчаньні ўсяго народу.

Але-ж Летувісы на выгнаньні й на Бацькаўшчыне ня згубілі надзеяў. Яны й іхныя браты ў Амэрыцы (кала 1,000.000!) энэргічна змагаюцца за волю свае Бацькаўшчыны. Усе яны моцна вераць, што яшчэ адродзіцца Незалежная Летува — суседка незалежных Беларусі-Крывіі, Украіны, Польшчы, Лацьвіі, Эстоніі, зь якімі будзе яе злучаць цесная фэдэрацыя.

Трэба спадзявацца, што ўсе гэтыя народы будуць мець гэтулькі палітычнага розуму й мудрасьці, каб у належным часе памагчы адзін аднаму так, як памагаюць цяпер на выгнаньні, дзе яны задзіночыліся ў змаганьні за волю сваіх краёў.

**Ад Рэдакцыі.** Артыкул дасланы нам зь летувіскіх колаў у перакладзе зь летувіскае мовы ў нашую.

## ЯК ПАЎСТАЛА ЛЕТУВА

Заўсёды моцнымі былі імкненьні Беларусаў і Летувісаў здабыць самастойнасьць сваім краём. Успомнім паўстаньне 1830 г., калі Беларусы й Летувісы гналі ў каршэнь Маскаля із свае зямлі. Вынікі: масавыя вывазы, зачыненьне Віленскага ўнівэрсытэту, адняцьцё кляштараў і сьвятыняў, увядзеньне маскоўскіх правоў і г. д. Затым — скасаваньне паншчыны і зноў паўстаньне пад кіраўніцтвам несьмяротнага Кастуся Каліноўскага, якое скончылася скрыпам шыбеніцаў, рэкамі крыві й паленьнем сёлаў. Тады й паўстаў летувіскі адраджэнскі рух, які пасьля падзяліўся на два кірункі — клерыкальны й прагрэсыўны, якія бачым і сяньня. Пасьля рэвалюцыі 1905 г. зьбіраецца 1-я нацыянальная Тарыба з удзелам беларускіх дэлегатаў, якая патрабавала аўтаноміі.

У траўні 1916 г. Летувісы разам зь іншымі, паняволенымі Расеяй народамі (у тым ліку й Беларусамі) падалі прэзыдэнту ЗША Вільсону просьбу аб дапамозе вызваліцца ад Маскоўцаў; просьбу паўтарылі й нямецкім акупацыйным установам. У чырвені 1917 г. Немцы дазволілі арганізаваць Летуву ў складзе Нямеччыны, і 18—22 верасьня ў Вільні адбыўся сход прадстаўнікоў (зь беларускімі дэлегатамі), які выбраў Віленскую Нацыянальную Раду, што 11. 12. 1917 г. абвесьціла Летуву ў складзе Нямеччыны (агульныя грошы, мыта, войска й г. д.). Гэта не здавальняла Хаўрусьнікаў, і таму па разьбіцьці Немцаў, 16. 2. 1918 г. была зноў абвешчаная незалежнасьць Летувы, але яна ня была прызнаная Хаўрусьнікамі да 28. 7. 1921 г., хоць Нямеччына прызнала яе «дэ-юрэ» ўжо 23. 3. 1918. 5. 11. склаўся першы габінэт міністраў на чале з Вальдэмарасам (Беларусы мелі 2 партфэлі), але Вільні пагражаў усходні вораг, і ўрад перабраўся ў Коўню. Беларусы й Летувісы ўзяліся за зброю й білі ворага, але розныя абставіны не давалі вызваліць і ўсяе Беларусі. Мірнай умовай 12. 7. 1920 г. СССР прызнаў самастойнасьць Летувы «на ўсе часы». 7. 10. 1920 г. у Сувалках, пад наглядам камісіі Лігі Нацыяў, робіцца канчальная ўмова, з азначанай дэмаркацыйнай лініяй, але ўжо 9. 10. польскі генэрал Жэлігоўскі збройна захапляе Вільню й толькі 19—21. 11. задзіночанымі сіламі Беларусаў і Летувісаў удаецца затрымаць ягонае войска ля Шырвінтаў і Гедройцяў. Ізноў камісія Лігі Нацыяў вызначае нэўтральную паласу і ўтварае г. зв. «Сярэднюю Літву», але й гэтае самастойнае гаспадарства 20. 2. 1922 г. Польшча гвалтам далучае да сябе.

Канстытуцыю Летувы прынялі 2. 11. 1918 г. (да канстытуцыі, прынятай у жніўні 1922 г.). Вышэйшы заканадаўчы орган — «Тарыба» — Гаспадарстваўская Рада ў 1919 г., на першага прэзыдэнта абрала А. Сьметону. Першыя выбары ў Летуве адбыліся 15. 5. 1920 г., У 1922 г. Тарыба прыняла новыя грошы — літ (1 даляр = 10 літаў), правяла зямельную рэформу, аддаўшы 500.000 гэктараў зямлі ў гаспадарстваўскі фонд. У студзені 1923 г. Летувісы забралі ад Немцаў Клайпэдзкую акругу, якую прызналі за Летувай 16. 2., а 15. 3. польска-летувіская мяжа была прызнаная за канчальную. Летувісы ўвесь час захопліва прапагандавалі здабыцьцё Вільні, аж да 1938 г., калі іх змусілі ўсталіць дыплёматычныя дачыненьні з Польшчаю, адчыніць мяжу й чыгунку Лібава—Вільня. Немцы, помстуючы за Клайпэду, у 1934 г. абвесьцілі Летуве гандлёвую вайну й ня бралі ад яе нічога.

Адзначым, што ў складзе Летувы былі таксама некаторыя беларускія раёны. Урад хрысьціянскіх дэмакратаў панаваў у Летуве да 3-га сойму, калі ў 1926 г. на выбарах перамаглі левыя й было зьліквідаванае Міністэрства Беларускіх Справаў на чале з В. Ластоўскім. Але ўжо 17. 12. адбываецца г. зв. пуч Вальдэмараса. Прэзыдэнтам ізноў стаўся А. Сьметона (які пасьля, з прыходам бальшавікоў, уцёк у ЗША, дзе загадкава забіты). Дарэмна спрабавалі ў 1927 г. скінуць Вальдэмараса, толькі ў 1929 г. яго паслалі ў выгнаньне, а ягоных «Зялезных Ваўкоў» зьліквідавалі.

У сакавіку 1939 г. Немцы адабралі зноў Клайпэду, а ў кастрычніку СССР пажадаў купіць Летувісаў і перадаў ім Вільню, дзе ўжо быў стварыўшы сваю базу. 15. 6. 1940 г. Летуву поўнасьцяй акупаваў СССР і ўжо ведамымі нам із Заходняй Беларусі падзеямі ў Коўні кіруе Дэканозаў. Адбыліся «народныя дэманстрацыі», дэклярацыі аб «заснаваньні савецкай улады», прамовы, «вольныя выбары» — усё да валаска падобна да падзеяў у Заходняй Беларусі.

Але Летува будзе зноў, гэтаму вераць выгнанцы, за гэта змагаюцца Летувісы за морам (у ЗША 1,000.000, у Бразыліі 50.000, у Аргентыне — 30.000, у Уругваі — 12.000, у Канадзе — 10.000, у Вялікабрытаніі — 20 тыс.). Прэзыдэнт Рузвэльт 15. 10. 1940 г. сказаў амэрыканскім Летувісам: «Летува й ейная суседзі будуць ізноў вольнымі й незалежнымі». А вольная Летува азначае сяньня таксама й вольную Беларусь. Сяньня-ж успомнім прароцкія словы вялікага летувіскага паэта Міроніса: «І ўсё-ж аднойчы Летува ўваскросьне, нездарма яна так шмат цярпела».

**Ул. Сакол.**

## ПОЛЬСКІЯ Й ЛЕТУВІСКІЯ СТУДЭНТЫ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Часапіс замежных студэнтаў у Нямеччыне падае статыстыку польскіх студэнтаў у Нямеччыне. Іх ёсьць каля 1.550, з чаго 800 у Амэрыканскай зоне, 600 у Ангельскай і каля 60 у Француской зоне.

Дармо, што перад вайною Польшча была ў 10 разоў большая за Летуву, лік летувіскіх студэнтаў перавышае Палякоў. У самой Нямеччыне вучыцца 1.900 летувіскіх студэнтаў (965 у Амэрыканскай зоне, 565 у Ангельскай зоне і 370-у Францускай). Апрача гэтага, 70 студэнтаў вучыцца ў Аўстрыі, 37 — у Італіі, 30 — у Швэдыі, 19 — у Францыі й 14 — у Швайцарыі. Найбольш студэнтаў мэдыкаў і тэхналёгаў.

